*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб Колас**

**№ 241 (1305)**

Чацвер, 27 снежня 2001 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 120 руб.,
у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля

**Наступны нумар "Народнай волі" выйдзе ў суботу, 29 снежня.**



ХІТРЫКІ

## Вакол пальца

**У канцы мінулага тыдня быў апублікаваны Указ Александра Лукашэнкі "Аб некаторых мерах па ўдасканальванні парадку прызначэння на дыпламатычныя пасады". Дэпутаты так званай Палаты прадстаўнікоў чакалі яго больш за год.**

Каб нібыта выканаць свае абяцанкі, Лукашэнку спатрэбілася 13 месяцаў. Яшчэ ў лістападзе мінулага года, калі ён выступаў на першай сесіі Палаты прадстаўнікоў, абяцаў дэпутатам пашырыць іх паўнамоцтвы. У прыватнасці, гаварыў аб далучэнні дэпутатаў да абмеркавання кандыдатур на дыпламатычныя пасады за межамі Беларусі.

І вось — указ, і дэпутатаў, як высветлілася, абвялі вакол пальца. Па-першае, як сведчыць тэкст гэтага дакумента, да ўдзелу ў вызначэнні паслоў і пастаянных прадстаўнікоў Беларусі пры міжнародных арганізацыях будуць прыцягнуты не ўсе дэпутаты, а толькі тыя, што ўваходзяць у склад пастаянных міжнародных камісій Нацыянальнага сходу. Па-другое, іх рашэнні, як адзначаецца ва ўказе, будуць мець толькі рэкамендацыйны характар.

У цэлым жа схема прызначэння фактычна амаль не змянілася. Як і раней, спачатку кандыдатуру прапануе Міністэрства замежных спраў, затым яе абмяркоўваюць у Савеце міністраў, і апошняе слова, як і раней, будзе за Лукашэнкам. Адзіная розніца, што кандыдату замест трох інстанцый, прыйдзецца прайсці чатыры, прычым чацвёртая, у выглядзе дэпутатаў, можа толькі выказаць свае думкі і не больш таго.

Выкладчык міжнароднага права, член міжнароднай камісіі Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання Павел Знавец так пракаменціраваў гэты ўказ: "Думаю, што Лукашэнка хацеў зрабіць рэверанс у бок Захаду, але атрымалася гэта вельмі няўдала. Таму што гэта здзек з тых заходніх палітыкаў, якія адсочваюць сітуацыю ў Беларусі і разумеюць яе. Яны цудоўна ведаюць, што так званы парламент Беларусі не мае ніякіх праў і таму адна з умоў АБСЕ — прызнанне дэмакратычнасці выбараў у Беларусі — ёсць пашырэнне функцый парламента. Тое, што Лукашэнка прапануе толькі дарадчы голас і толькі адной камісіі — гэта яшчэ раз сведчыць пра тое, што новая ініцыятыва з'яўляецца спробай падмануць і дэпутатаў, і заходнікаў".

Дарэчы, рэкамендацыйны характар у адносінах да прызначэння дыпламатаў прадугледжаны і ў праекце закона "Аб статусе дэпутата Палаты прадстаўнікоў Рэспублікі Беларусь". Палатнікі першапачаткова хацелі разгледзець гэты законапраект на снежаньскай сесіі. Але так і не знайшлі для гэтага час.

**Уладзімір ГЛОД.**

## Уладзімір Ганчарык пакідае пасаду старшыні ФПБ

Уладзімір Ганчарык пакідае пасаду старшыні Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай (ФПБ) у сувязі з прызначэннем яго намеснікам старшыні Усеагульнай канфедэрацыі прафсаюзаў (УКП) — арганізацыі, якая аб'ядноўвае найбуйнейшыя прафцэнтры краін СНД.

Згодна са статутам ФПБ, старшыня Федэрацыі абіраецца і здымаецца па рашэнні з'езда. Аднак, калі старшыня падае ў адстаўку па ўласным жаданні, гэтае пытанне можа вырашыць пленум.

**Ірына ЛЕЎШЫНА.**

### Міні-каментарый

Можна не сумнявацца, пераход Ул.Ганчарыка на работу ў канфедэрацыю прафсаюзаў — лепшы навагодні падарунак беларускім уладам. Зараз яны думаюць толькі аб адным, як у крэсла старшыні Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай (ФПБ) пасадзіць "свайго чалавека", ідуць на розныя хітрасці. Кажуць, напрыклад, што пытанне аб адмене пастановы ўрада аб забароне пералічэння прафузносаў праз бухгалтэрыі прадпрыемстваў і ўстаноў можа разглядацца толькі пасля абрання старшынёй Федэрацыі прафсаюзаў чалавека, лаяльнага да Лукашэнкі і яго ўрада. Такія, вядома, ёсць, некаторыя нават ужо былі заўважаны ў калідорах Дома ўрада.

Не, не хутка беларускія прафсаюзы стануць па-сапраўднаму абаронцамі рабочых, калгаснікаў, інтэлігенцыі, пенсіянераў, студэнтаў. Дарэчы, калі прафсаюзная вярхушка думае не аб людзях, а пра свае ўласныя жываты, то чаму б не сказаць сваё слова тым жа рабочым, калгаснікам, інтэлігенцыі?..

УВАГА!

## Шчаслівчыкі розыгрышу латарэі "Народнай волі" стануць вядомы 10 студзеня

Шаноўныя чытачы — удзельнікі розыгрышу латарэі "Народнай волі".

Па-першае, дазвольце падзякаваць Вам за ўдзел у нашай перадnavагодняй акцыі. Як і паведамлялі, мы сапраўды разлічвалі падвесці вынікі конкурсу ў апошнія дні снежня. На жаль, дату розыгрышу вымушаны перанесці на больш позні тэрмін. І звязана гэта з адной прычынай — рэдакцыя атрымала ад Вас такое мноства лістоў, што фізічна не ў стане апаратыўна іх апрацаваць, усебакова падрыхтавацца да розыгрышу латарэі.

Канчатковае рашэнне — розыгрыш латарэі адбудзецца 10 студзеня. Аб дакладным месцы і часе правядзення мерапрыемства паведамім у першых студзеньскіх нумарах.

Да сустрэчы!

**Рэдакцыя газеты "Народная воля".**

## "Навагодні кірмаш" у Мінску

**21 снежня ў Мінску, у выставачным комплексе (вуліца Янкі Купалы, 27) адкрыўся традыцыйны "Навагодні кірмаш".**

Тут прадстаўлена ўсё неабходнае для стварэння ў доме святочнага настрою. Наведвальнікам кірмашу прапаноўваецца шырокі асартымент тавараў: касметыкі і парфумерыі, адзення і абутку, галантарэі і аксесуараў, прадметаў хатняга ўжытку, аўдыё- і відэапрадукцыі, усялякія цацкі і дзіцячыя кнігі, а таксама ёлачныя ўпрыгажэнні, свечкі і гірлянды, святочныя сувеніры і шмат чаго іншага. Паводле звестак арганізатара кірмашу — выставачнага прадпрыемства "Экспафорум", удзел у кірмашы бяруць больш за 150 фірм.

У гандлёвым павільёне працуюць дзіцячыя надзіманыя атракцыёны.

**Ірына САЗАНОВІЧ.**

СУД

## Вина Чигиря-младшего пока не доказана

*Обвинение прокурора на судебном процессе по делу Чигиря-младшего звучало набатом:*

Чигирь Александр Михайлович... создал из ранее судимых за имущественные преступления организованную преступную группу, произвел распределение ролей между ее участниками, давал указания на угон автомобилей, а после реализации похищенного выплачивал каждому члену преступной группы его долю...

Судебное разбирательство в разгаре: обвиняемые допрошены, идет допрос пострадавших. Однако государственный обвинитель, юрист второго класса Олег Слука, в ходе допроса членов "бандитской группировки" не задал ни одного вопроса по существу обвинения, а именно:

— когда и где создана данная преступная группа?

— каким образом распределялись функции между членами шайки?

— кто разрабатывал планы операций похищения?

— сколько получено членами преступной группы за каждый угнанный и разобранный автомобиль?..

Допрос владельцев транспортных средств сводится к выяснению обстоятельств опознания угнанных у них автомобилей. Из показаний пострадавших можно сделать вывод о том, что процедуры изъятия и опознания, предусмотренные Уголовно-процессуальным кодексом, соблюдались следственными органами далеко не всегда. И если защита представит веские доказательства этого, то суд при вынесении приговора будет обязан не признать действенными целый ряд следственных документов, на которых собственно-то и построено обвинение.

Я не услышал в зале суда ни одного, даже косвенного, указания на то, что Дмитрий Юцкевич и Антон Яшин похищали и разбирали на запчасти автомобили и что творили они эти "преступные деяния" по приказу А.Чигиря. "Признательные" показания против Александра Чигиря, данные ими, как они утверждают, под пытками, в ходе судебного разбирательства не подтверждаются. Более того, обвиняемые заявили, и, похоже, это правда, что следствие даже не пыталось проверить версию происхождения автозапчастей, указываемую членами "преступной группы" Чигиря-младшего, а разбирательство прокуратуры на жалобу об использовании в Московском РУВД Минска пыток закончилось выводом надзорной инстанции, что задержанных избили при... попытке к бегству.

Остается надеяться, что проверкой алиби обвиняемых займется суд. Правда, для этого придется вызвать в зал суда для дачи показаний поставщика бэушных автозапчастей (некого Женю), которого Следственный комитет МВД разыскивать не пожелал нужным.

Надежда, как мне кажется, не совсем уж и беспочвенна: одно вопиющее нарушение следственными органами, а именно, право человека на защиту, судебная коллегия под председательством Сергея Хрипача уже устранила. К участию в данном уголовном процессе в качестве защитника допущена Ю.Чигирь — мать Александра Чигиря. Следственный комитет МВД Республики Беларусь в лице старшего следователя Сергея Салькова лишал Юлию Станиславовну этого ее неотъемлемого права в течение десяти месяцев (с февраля по декабрь 2001 года).

Остается добавить, что Чигирь-младший держится в суде с достоинством. Почти годовое пребывание в застенках не сломило его.

**Валерий ЩУКИН, правозащитник.**

# 2001-й

## 5 очарований и 5 разочарований



**Александр СИЛИЧ**

**Уходящий год не стал для Беларуси, к сожалению, годом эйфории демократии и победы Ума над Дуростью. Белорусы вновь остались у разбитого корыта, время от времени угощаясь киселем застоя в экономике и надолго забываясь в бесплодном политическом сне.**

**Светлое Завтра опять переносится на послезавтра. Синеокая осталась блуждать в трех соснах своего "особого пути" развития, правители продолжили слепо видеть будущее, рабы — низко кланяться.**

**Необычная черта первого года нового тысячелетия: разочаровали события, очаровали люди.**



А.С.

## Разочарования

### Война

Ужасные по своей жестокости террористические акты в США 11 сентября, рост напряженности на Ближнем Востоке породили вялотекущую мировую войну, очаги которой, к нашей беде, постоянно разрастаются. В Нью-Йорке погиб белорус, в Минске стала выше стена непонимания между американской и белорусской нациями. В то время как в Соединенных Штатах, Афганистане, Израиле, Пакистане и Палестине почти ежедневно продолжают гибнуть ни в чем не повинные люди, Беларусь цинично торгует оружием.

Война стала бизнесом, война стала предметом торга. Люди поверили в то, что в XXI веке война возможна, что в ней нет ничего невероятного. Насилие победило благоразумие.

### Сентябрьское надувательство

Мирная жизнь в Беларуси в 2001-м тоже не стала предметом для очарования. Надежды на новые лица в политике, на решительные реформы в экономике были похоронены за один день и одну ночь 9 сентября. Позорный фарс, названный президентскими выборами, случился из-за того, что полковник Иванов заставил своих бойцов голосовать досрочно, а декан Петров приказал закрыть в воскресенье избирательный участок в студенческом общежитии, а "асабліва свядомых" студентов пригрозил отчислить.

Главврач Сидоров лично ходил с избирательной урной по палатам, требовал 100% досрочного участия, угрожая выписать из больницы, а член избирательной комиссии Пупкина "не заметила" неучтенных бюллетеней. Он пообещал, она правильно посчитала. А народу, не испугавшегося милицейских дубинок и дождя на Октябрьской площади Минска 9 сентября, собралось всего 3—4 тысячи.

В результате мы имеем то, что имеем...

### Тихая распродажа Беларуси

"Крыніца", "Нафтан", "Полимир", "Азот", десятки других предприятий Беларуси — прибыльные и знаменитые — на них положили глаз в уходящем году "акулы" российского бизнеса. Национальный белорусский бизнес, так и не подняв головы, остался мальчиком для битья. Под грозный рев безгранично разрастающейся местной контрольной и налоговой гидры, под рокот оскорблений с высоких трибун власти отечественный предприниматель зачах, молчаливо отдавая бразды правления старшему брату.

На месте доморощенных, в хорошем смысле слова, звезд предпринимательства, обеспокоенных состоянием не только родной экономики, но и культуры, медицины и образования, явно стал вырисовываться лик безразличных к нашим проблемам российских дерипасок.

### Раскол в партиях

Очередное клонирование у социал-демократов и взаимонепонимание в руководящих органах осколков Белорусского народного фронта сильно снизили общий кредит доверия к оппозиции у демократически настроенных граждан. Никого уже не волнует, говоря откровенно, кто умнее и красивее, — Статкевич или Король, Вечерка или Сивчик. Никому уже не интересно, как будут называться соцдемы — БСДП (НГ) или просто БСДП, БСДГ или БСДПНГГ. Мозги кипят у обывателя от попытки разобраться, в чем разница между КХП БНФ и "общественным объединением БНФ "Адраджэньне". При этом на выходе один результат — избиратель видит, что у демократов нет главного: СОГЛАСИЯ!!!

Мы вновь забыли мудрую пословицу о том, что сложенные вместе прутья переломить гораздо сложнее, чем когда они в отдельности.

### "Громкие дела" — на полку

Ульяна Григорьевна Захаренко, Валентина Адамовна Гончар, Ксения Сидоровна Красовская, Ольга Григорьевна Завадская не узнали ничего нового о судьбе своих похищенных сыновей. Олег Божелко, как пугливый помойный кот, прячется в собственной минской квартире, не желая рассказать правду о "громких делах" не только журналистам "Народной воли", но и собственной совести. Генерал-аристократ Сиваков, наверняка много знающий об организации похищений и возможных убийств оппозиционных политиков, прикрывается одеялом громких слов о любви к Отечеству, о "государевой службе". Нет, не проснулся Сиваков однажды утром 2001-года и не пришел к очищению, не осмелился исповедаться обществу — как человек, как офицер, как мужчина.

Молчат следователи, молчит прокуратура, молчит Главный. Где же правда? Правда уснула в молчании тех, кто забыл, что такое гражданское мужество, что такое Честь офицера.

## Очарования

### Владимир Гончарик

Единому кандидату от объединенной демократической оппозиции досталось немало шишек после 9 сентября. Но не нужно, на мой взгляд, забывать главного: Владимиру Ивановичу в его уже солидном возрасте регулярными поездками и встречами с народом удалось взорвать спящий рейтинг кандидата-демократа. За короткий срок команде Владимира Гончарика (и благодаря усилиям добровольцев и независимой прессы) удалось добиться очень неплохого результата на президентских выборах — имею в виду реальные цифры, а не фантазии, родившиеся в головах руководителей Центризбиркома.

Председатель Федерации профсоюзов Белорусской рисковал, рисковал сильно, бросая перчатку диктатору. Рисковал не только своей жизнью и здоровьем, рисковал безопасностью своей жены и детей. Владимир Гончарик прекрасно понимал, что будет, если игра не состоится. И самое главное, он не испугался. Честь и хвала ему за это! Хотя, конечно, ошибок было допущено немало. Особенно со стороны тех, кто возглавлял штаб единого кандидата.

### "Хотим знать правду!"

Усилиями Анатолия Лебедько, Леонида Малахова, Тимофея Дранчука, других активистов Объединенной гражданской партии, многих сотен небезразличных людей была организована международная акция "Хотим знать правду!"

Пока спала государственная совесть, в 15-градусный мороз на улицах Минска, Могилева, Жлобина, Борисова, Крупок стояли люди. Они стояли, держа в руках портреты похищенных жертв диктаторского режима. Они стояли, не надеясь на то, что уже завтра узнают что-нибудь об их судьбах. Их хватали, их избивали, их штрафовали.

Они хотели лишь напомнить всем тем, кто безнадежно растворил свою жизнь в мексиканских сериалах и затворил себя в собственную лестничную клетку, о том, что беда пришла не только в дом Красовских, Завадских, Гончаров и Захаренко, беда пришла в наш общий дом — Беларусь.

### Первая ласточка

В 2001-м появилась первая смелая ласточка среди популярных телеведущих — обаятельная Зинаида Александровна Бондаренко, которая не испугалась публично заявить о своей гражданской позиции. Когда я увидел Зинаиду Бондаренко выступающей на собрании штаба единого кандидата от широкой гражданской коалиции, я понял, что что-то изменилось. Я понял, что есть не только Зимовский, Козиятко, Ковалева, Мелешко и Рудометов.

В кулуарных беседах все они жалуются на жизнь и ругают правителей. Но когда в телекамере загорается красная лампочка "мотор", всех этих мелешек не узнать: на лице появляется сладкая, льстивая усмешка, и они начинают вещать о головокружительных успехах рыночного социализма и об эффективности президентской власти.

Спасибо Вам, Зинаида Александровна! Спасибо за то, что Вы не такая.

### Подписчик "Народной воли", слушатель Радио "Рация"

После сентябрьского избирательного позора и вынужденного повышения цен на печать были некоторые опасения, что многие подписчики "Народной воли", "БДГ", "Нашей Нивы", "Нашей Свободы", "Свободных новостей", слушатели Радио "Свобода", Радио "Рация" уйдут искать правды в другие издания. Наши опасения, к счастью, не оправдались — данные о результатах подписки и о тиражах газет говорят об одном: вы, дорогие наши, остались с нами.

Неправда, что независимая пресса существует благодаря издателям и журналистам. Независимая пресса существует исключительно благодаря тебе, наш подписчик, наш читатель! Не все помнят, что газета — это обычное частное предприятие, которое должно платить за бумагу, за услуги типографии и почты, платить зарплату своим работникам и налоги государству. Независимые газеты и радиостанции не получают дотаций из госбюджета, как получают их те, кто интересы власти ставит выше интересов народа.

"Народная воля" будет существовать до тех пор, пока на нее будут подписываться Ирина Александровна Васюта из Молодечно и Галина Алексеевна Белова из Гомеля, пока ее будут покупать в киоске таксист Ваня и школьник Петя, учитель Семен Николаевич и пенсионерка Клавдия Петровна.

Вы очаровали нас, читатели, тем, что не изменили нам!

### Защитники Куропат

Федор Жибулевский, Юрий Фабишевский, Никита Сасем, Глеб Вязовский, Алесь Гетман, Ярослав Стешик, Сергей Высоцкий, Евгений Афнагель, Алексей Толстов, Павел Северинец, Дмитрий Захаревич и другие. Эти ребята не болтали, они важно не надували щеки, махая кулаком из штата Огайо ненавистному режиму. Они просто защищали Куропаты.

Те, у которых в той части мозга, где должна быть память, выросла задница, не предполагали, что бульдозерам, которыми они командуют, не будет так просто вгрызаться в политую кровью землю Куропат. Нашлись молодые ребята, которые готовы были бросаться под эти бульдозеры. Они днями и ночами дежурили и продолжают дежурить в Куропатах, пытаясь помочь вспомнить некоторым государственным мужам о жертвах сталинского геноцида.

Защитники Куропат — безусловное и, наверное, главное очарование года.

# Пастырскі ліст на Божае Нараджэнне 2001 года Пана

**"Кожнаму з нас дадзена ласка паводле меры дару Хрыстовага". Эф 4, 7.**

Наведваючы хрысціянскія святыні ва ўрачыстасць Божага Нараджэння, з пакораю і набожнасцю мы схіляем галовы прад Божым Дзіцяткам, што ляжыць у ясельках у бэтлеемскай стаенцы. Бачачы вачамі веры ў гэтым немаўляці Уцелаўленае Слова, Сына Божага, народжанага з Панны Марыі, з радасцю ўсведамляем, як збавенныя дары, якім дадзены пачатак у гэтую Бэтлеемскую ноч, зышлі на людзей, што з сумам чакалі абяцанага Месію.

### 1. Дар прыйсця

Божага Сына на зямлю

Божае Нараджэнне стала святам найбольшага дару самога Бога-Айца, які "так палюбіў свет, што аддаў Сына Свайго адзінароднага, каб усякі, хто верыць, не згінуў, але меў жыццё вечнае" (гл. Ян 3, 16). У гісторыі чалавецтва Бэтлеемская ноч распачала эру Новага Запавету, напоўненага місіяй Збавіцеля — Езуса Хрыста.

### 2. Дар адкуплення і кампенсацыі

У выніку першароднага граху людзі ўсё больш і ўсё часцей абражалі Бога, а нават выракаліся Яго, і вось Сын Божы, уцелавіўшыся, усклаў на сябе грахі ўсіх людзей і аддаў за іх сваё цела на крыжы як ахвяру адкуплення і кампенсацыі перад веліччу Бога-Айца.

### 3. Дар паяднання і прабачэння

Божае Нараджэнне дало пачатак паяднанню людзей з Богам і прабачэнню ўсіх людскіх здрадаў, дзякуючы збавенным заслугам Езуса Хрыста — Уцелаўленага Слова. Чалавеку вернута права прабываць з Богам, права, якое меў на пачатку свайго існавання, калі ў раі мог бачыць Бога тварам у твар.

### 4. Дар жыцця

Сын Божы праз сваё Божае Нараджэнне на зямлі даказаў, што вялікай каштоўнасцю для чалавека павінна з'яўляцца яго жыццё. Хрыстус хацеў, каб мы дзякуючы Яго жыццю і праз Яго жыццё, якое ён пачаў у Бэтлеемскую ноч, зразумелі каштоўнасць нашага жыцця. "Я прыйшоў, каб (авечкі) мелі жыццё і мелі яго ў поўні" (гл. Ян 10, 10). Ён нас вучыць, што сапраўднае жыццё — гэта не толькі фізічнае жыццё, але гэта жыццё з Богам і жыццё дзеля Бога. Калі фізічнае жыццё заканчваецца з момантам смерці чалавека, то жыццё з Богам трывае вечна.

Сын Божы прыйшоў да нас на зямлю, каб мы маглі жыць вечна. Езус ясна сказаў: "Воля Паслаўшага Мяне ёсць такая, каб кожны, хто бачыць Сына і веруе ў Яго, меў жыццё вечнае; і Я ўваскрашу яго ў апошні дзень" (гл. Ян 6, 40).

### 5. Дар святла

Хрыстус праз сваё нараджэнне ў Бэтлеемскую ноч асвятліў змрок ночы, які панаваў перад Яго прыйсцем на свет. Праўда, перад Хрыстом прыйшоў Ян Хрысціцель, але, як гаворыць святы Ян Евангеліст: "Не быў ён святлом, але сведчыў аб Святле. Было Святло праўдзівае, Якое асвячае кожнага чалавека" (гл. Ян 1, 8—9). Гэтым святлом быў Хрыстус, які сам пра сябе сказаў: "Я святло свету: хто пойдзе за Мною, той не будзе хадзіць у цемры, але будзе мець святло жыцця" (гл. Ян 8, 12). Ісці за Хрыстом — гэта значыць ісці за сапраўдным святлом, якое для нас з'яўляецца самым надзейным праваднікам на шляху да мэты нашага жыцця — Бога.

### 6. Дар спакою

У гісторыі чалавецтва, калі часта адбываюцца войны, агрэсіі, напады, а ў апошні час і тэрарызм, мы пастаянна бачым неабходнасць існавання спакою. Аднак жа меры перасцярогі для ўвядзення і захавання спакою, што абапіраюцца на ўзброеную сілу, на закон помсты і насілля, не даюць, не гарантуюць і не захоўваюць спакою. Сведчаннем гэтага з'яўляецца тэрарызм, які шалее цяпер са страшнай сілай, і ваенныя спробы яго ўтаймавання. Як жа адрозніваюцца тыя канцэпцыі спакою, якія абвяшчае Евангелле праз Божага Збаўцу, Езуса Хрыста, народжанага ў бэтлеемскай стаенцы. Хрыстус Пан заклікае да спакою на аснове любові да Бога і бліжняга, якая атуляе душы і сэрцы людзей, сем'і, а таксама ўплывае на ўзаемаадносіны паміж людзьмі. Пан Езус запэўнівае: "Спакой пакідаю вам, спакой Мой даю вам, даю ж вам не так, як свет дае" (гл. Ян 14, 27).

Мае дарагія дыяцэзіяне!

Збіраючыся ў перыяд святаў Божага Нараджэння каля традыцыйнай бэтлеемскай стаенкі, мы маем магчымасць аддаць належную пашану Божаму Дзіцяці, што ляжыць у ясельках, і выказаць нашу вялікаю ўдзячнасць за Яго прыйсце на зямлю ў постаці чалавека, за распачатую справу адкуплення роду людскога і за паяднанне людзей з Богам. Адначасова з глыбіні нашых сэрцаў мы складаем шчырую падзяку за ўзбагачэнне нас Божымі дарамі, дзякуючы якім чалавеку вернута права быць з Богам, якое ён меў на пачатку свайго існавання.

З'яднаныя з Уцелаўленым Словам,

Адкупленыя ахвярнаю місіяй Збаўцы,

Паяднаныя любоўю да Бога і да бліжняга,

Адораныя жыццём з Богам і дзеля Бога,

Асвечаныя спрадвечнаю Божаю праўдай,

Узмоцненыя спакоем Хрыста,

пойдзем жа, поўныя радасці, даверу і надзеі ў далейшую нашую зямную пілігрымку да вечнага шчасця, падрыхтаванага нам Уцелаўленым Словам — Божым Збаўцам Езусам Хрыстом.

Няхай паўната благаславення Божага Сына, народжанага ў Бэтлеемскую ноч, сыдзе ў Яго збаўчых дарах на нас у канцы старога і на пачатку новага года!

**Кардынал Казімір Свёнтэк, Арцыбіскуп, Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі, Апостальскі Адміністратар Пінскай дыяцэзіі.**

